# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 24 (1570) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 15 ЧЭРВЕНЯ 1986 г. ЦАНА 10 зл.

Дні Беларусі ў Польшчы

## КАРЦІНЫ ПІСАНЫЯ СЭРЦАМ

Мы ўжо пісалі аб важных падзеях, якія адбыліся ў Варшаве ў Дні Беларусі ў Польшчы. Адной з іх была таксама выстаўка выдучага мастака Беларусі Міхася Савіцкага.

Міхась Савіцкі належыць да пакалення, якое на ўласным лёсе адчула ўсе жахі вайны. Ён — удзельнік абароны Севастопаля, потым — вязень фашысцкіх канцэнтрацыйных лагераў Бухенвальд і Дахау. Перажытае ў значнай меры вызначыла яго мастацкі шлях.

Мастак стварыў больш 100 палотнаў, некалькі манументальных работ, і значная іх частка прысвечана тэме гераізму савецкага народа ў час II сусветнай вайны.

Увасабленнем шматпакутнай, але непакорнай Беларусі, дзе ў гады вайны загінуў кожны чацверты жыхар, стаў вялікі цыкл карцін пад агульным загалоўкам „Гераічная Беларусь 1941". У яго ўвайшлі „Партызаны", „Партызанская мадонна", „Аршанскія партызаны", „Віцебскія вароты", „Камсамольцы", „Адыходзячая ў ноч", „Дзеці вайны і шмат, шмат іншых, а таксама манументальная кампазіцыя у Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны ў Мінску пад назвай „Вялікая Айчынная вайна. 1944" (1971-72 г.), за якія ў 1973 годзе мастаку была прысуджана

(Працяг на стар. 4)



Цэнтральнае месца ў зале займае „Партызанская мадонна". Праводзіць гасцей па выстаўцы мастацтвазнаўца Уладзімір Пракапцоў.
Фота Я. Чэрнякевіч.




## З ДУМКАЙ ПРА ЗАЎТРА

У духу шчырай партыйнай абмяркоўкі найважнейшых праблемаў у жыцці нашага ваяводства праходзіла 24 мая г.г. Перадз'ездаўская ваяводская канферэнцыя ПАРП. На ёй 291 дэлегат прадстаўляў 35-тысячную армію камуністаў Беласточчыны. Прынялі ў ёй таксама ўдзел сакратар ЦК ПАРП Юзаф Барыла, кіраўнік сельскагаспадарчага аддзела ЦК ПАРП Стэфан Завадзінскі, міністр асветы і выхавання Янна Міхалоўская-Гумоўская і іншыя запрошаныя.

І ў дакладзе І сакратара Ваяводскага камітэта ПАРП Уладзіміра Каладзеюка, і ў выступаючых у дыскусіі дэлегатаў і гасцей адчувалася апраўданая сатысфакцыя з належна выкананых нялёгкіх заданняў, якія перад усёй партыяй паставіў пяць гадоў таму назад IX Надзвычайны з'езд ПАРП. Аднак канферэнцыі найбольш увагі адводзілася тым заданням, якія стаяць перад партыяй і ўсім грамадствам цяпер і якія неабходна выканаць. Без непатрэбных эмоцый удумліва аналізаваліся прычыны недахопаў, нястачаў, злоўжыванняў і злачынстваў, якія выступаюць у розных дзялянках нашага жыцця, ды падаваліся пад разгляд найбольш трапныя спосабы выпраўлення існуючага стану і ліквідавання зла. Наогул канферэнцыя глядзела не ў мінулае, а ў будучае.

Дзякуючы намаганням партыі і ўсіх светлых сіл у краіне запанаваў спакой, умацоўваецца гаспадарка, людзі з большай упэўненасцю глядзяць на сваё заўтра. Расце і ўмацоўваецца ў грамадстве пашана да партыі. Пераважная большасць насельніцтва бачыць у партыі адзіную сілу, якая гарантуе краіне дастойную будучыню. Доказам гэтага тое, што ў партыю ўступае штораз болей новых членаў. толькі за першыя чатыры месяцы бягучага года партыйныя шарэнгі на Беласточчыне павялічыліся на 600 кандыдатаў.

З мноства спраў, якія абмяркоўвала канферэнцыя, хачу затрымацца на адной, па-мойму, найважнейшай для ўсіх нас.

(Працяг на стар. 2)

## ВІТАЕМ НОВЫ АДДЗЕЛ БГКТ

У Гарадку 25 мая 1986 г. адбылася раённая канферэнцыя Беларускага грамадска-культурнага таварыства. На ёй намеснік старшыні ГП БГКТ Кастусь Майсеня выступіў з дакладам аб асноўных напрамках дзейнасці і дасягненнях БГКТ і „Нівы" ў мінулым 30-годдзі, а таксама аб ходзе рэалізацыі пастаноў X з'езда нашага таварыства.

У дыскусіі выказвалася, між іншым, неабходнасць інтэнсіўнай дзейнасці нашай арганізацыі ў гэтым раёне. Перш за ўсё трэба ўвесці навучанне беларускай мовы ў школе ў Гарадку і іншых школах, больш актыўна праводзіць культурна-асветную працу, заснаваць гурткі БГКТ у тых мясцовасцях, дзе іх яшчэ няма, арганізаваць фэстын БГКТ у Гарадку.

Затым канферэнцыя выбрала 18-асабовае праўленне Гарадоцкага раённага аддзела БГКТ і яго прэзідыум у складзе: старшыня — Тамара Бурачэўская, дырэктар Дома культуры імя К. Каліноўскага; намеснік старшыні — Іван Федзюкевіч, настаўнік; сакратар — Зінаіда Кандрусік, дырэктар гмінnай школы; скарбнік — Ніна Ціванюк, вядомая дзяячка БГКТ; члены Прэзідыума: Іван Карповіч, Яўген Паплаўскі, Юрый Ціванюк. Выбрана таксама рэвізійная камісія: старшыня — Надзея Дудзік, сакратар — Міраслаў Дзярманскі, член — Галіна Рагач.

Канферэнцыя зрабіла ацэнку дзейнасці БГКТ у сваім раёне і абавязала Прэзідыум праўлення апрацаваць план працы аддзела з вызначэннем адказных за паасобныя гурткі і дзялянкі дзейнасці. (км)

## СКАЖУ ТАБЕ, БЕЛАСТОК

Пражыў ты нямала, але не наслухаўся столькі беларускага, што цяпер неспадзявана. У магнацкія пачаткі свае слова роднае ў цябе заглухала ў хацінах парабкоўскіх або ўсяго прарывалася яно марнай слязою ў крыўдаванні служанкі. А ў палацы тым хвалёным тваім баль за балем музыканіў, усё свята было ў пана з паняй, як бы нябёсы спаслалі ім рай... Ды бедным — грахі, і за грахі. Круціўся прадзед мой між анёлам і чортам, сяк-так перабіваючыся з духам да смерці супакойнай.

Ну, што мне тая слаўная твая даўніна, Беласток?!

Свет без паноў не можа быць (як і мужык без пагарды). Было іх і пасля — што ні фабрыка — то няволя, дык што ні фабрыкант — то царэвіч. А беларусу куды ж падзецца? Паратунку

(Працяг на стар. 4)

# І песню родную люблю я...



**Падаем найбольш папулярныя песні, якія пачуюцца ў нядзелю 15 чэрвеня г.г. у беластоцкім Амфітэатры.**

**Спявае Гарадоцкі хор**

**МОЙ КРАЙ БЕЛАРУСКІ**

*Паводле Н. Гілевіча, музыка І. Кузняцова*

Мой край беларускі, старонка мая,
Сыноўняга сэрца надзея,
Мне радасна сёння, што доля твая
Пад сонцам вясны маладзее.
Ты матчынай песняй у сэрцы жывеш,
Як шчасцем, табой даражу я,
Мне любая Нараў твая, Белавеж,
І Супрасль, твая прыгажуня.
Ад сіняга Буга да плёсу Дняпра
Твае не акінеш прасторы,
Сястра Украіны, Расіі сястра,
Ты з імі і ў шчасці і ў горы.
О, край беларускі, старонка мая,
Сыноўняга сэрца надзея,
Мне радасна сёння, што доля твая
Пад сонцам вясны маладзее.

**Спявае саліст з Гарадка Юрый Налівайка**

**ПРЫХОДЗІЦЬ ПАМЯЦЬ**

Я перад вамі з памяццю сваёй —
Аднаму мне бывае цяжка з ёй.
Ідзе яна за мною след у след,
ідзе за мною многа зім і лет.
Находзіць памяць у цішы начной —
прыходзіць памяць з ранняшняй зарой.
Убачу, як заход гарыць ў агні
і ўспомню тыя ночы, тыя дні.
Я перад вамі з памяццю сваёй —
навечна мне запомніўся той бой,
дзе сябра я выношу з-пад агню,
дзе ўбачыў зблізку смерць упершыню.
Находзіць памяць у цішы начной —
прыходзіць памяць з ранняшняй зарой.
Мне часам груз яе не па плячы,
Парой не знаю, як ёй памагчы.
Я перад вамі з памяццю сваёй,
Мне трэба падзяліцца з вамі ёй,
я перад вамі з памяццю сваёй.

**Спявае Беластоцкі хор „Каласкі"**

**ЧОРНЫЯ ВОЧКІ**

*Словы і музыка А. Шыдлоўскага*

Чорныя вочкі, пара ўжо спаць!
Заўтра з зарою трэба ўставаць.
Ужо гукае вясна ў дуброве, 2 разы
Выйдзем дружна ўсе працаваць.
Ах, не завіце спаці вы мяне.
Ціха, чароўна так на дварэ.
Мілы Андрэйка і салавейка 2 разы
Не пускаюць у хату мяне.
Па-над зямлёю ўзышла зара,
Свеціць, іскрыцца ў полі раса.
Людзі выходзяць — песню заводзяць. 2 разы
Час да працы, час і пара!
Усё расцвітае, вясна шуміць,
Як, чорныя вочкі, вас не любіць?
Усюды раздольна, дышыцца вольна 2 разы
Сэрца б'ецца, хочацца жыць.

**Спявае мужчынскі калектыў „Звон" з Беластока**

**КУПАЛІНКА**

— Купалінка, купалінка, цёмная ночка.
Цёмная ночка, а дзе ж твая дочка?
— Мая дочка ў садочку, ружу поліць,
Ружу поліць, ружу поліць, біс
Белы ручкі коліць.
Кветачкі рвець, вяночкі в'ець.
— Наце ж, наце ж вам, дзяўчаткі, біс
Усім па вяночку.
— Купалінка, купалінка, цёмная ночка,
Цёмная ночка, а дзе ж твая дочка?

**Спявае мужчынскі калектыў „Звон" з Беластока**

**ЛЮБЛЮ НАШ КРАЙ**

*Словы К. Буйло, музыка народная*

Люблю наш край — старонку гэту,
Дзе я радзілася, расла,
Дзе першы раз пазнала шчасце, 2 разы
Слязу нядолі праліла.

Люблю народ наш беларускі,
Хаціны ў зелені садоў,
Залочаныя збожжам нівы, 2 разы
Шум нашых гаяў і лясоў.

І песню родную люблю я,
Што дзеўкі ў полі запяюць,
А тоны голасна над нівай 2 разы
Пераліваюцца, плывуць.

**МАЛАДЫМ БЕЛАРУСАМ**

**Давайце, сябры маладыя,**
**Адкінем хмурнасць, ветраломы,**
**Шэрасць дня пакрыем квеццем**
**І з мудрасцю людзей свядомых**
**Выйдзем на шлях са сцежак вузкіх,**
**А над зямлёй сардэчнай, роднай**
**На вышыню паднімем горда**
**Спеў харавы наш беларускі.**

**ЮРКА БАЕНА**

**Спявае жаночая група калектыву „Васілёчкі" з Бельска-Падляшскага.**

**ЗОРАЧКА**

*Словы і музыка А. Шыдлоўскага*

Зорачка ясная ў небе гарыць,
Вечна трывожна яна зіхаціць,
Вечна маўклівa глядзіць з вышыні,
Быццам шукае кагось на зямлі.

Можа шукае, а можа і не,
Толькі люблю я глядзець на яе,
Можа таму я начамі не сплю,
Любую зорку шукаю маю.

Хочацца зорку такую знайсці,
Каб непагасна свяціла ў жыцці,
Радасць і шчасце каб сэрцу дала,
Век неразлучнай са мною была.

**Спявае Гайнаўскі беларускі хор**

**ОЙ, У ПОЛІ КРЫНІЦА**

*(Беларуская народная песня)*

Ой, у полі крыніца —
Там халодна вадзіца, вадзіца.
Ой, у полі крыніца —
Там халодна вадзіца.

Там журавель воду піў,
Не напіўся — скалаціў, скалаціў.
Там журавель воду піў,
Не напіўся — скалаціў.

Ой, у лесе пад дубком
Стаіць дзеўка з казаком, з казаком.
Ой, у лесе пад дубком
Стаіць дзеўка з казаком.

Вецер дубам шастае,
Хлопец дзеўку пытае, пытае.
Вецер дубам шастае,
Хлопец дзеўку пытае:

— Дзяўчыначка, чыя ты?
Ці не выйдзеш гуляці, гуляці?

— Не пытайся, чыя я,
Як ты выйдзеш, выйду я! 2 разы
Ой, я-я!
Не пытайся, чыя я,
Як ты выйдзеш, выйду я!

**Спявае салістка калектыву „Васілёчкі" з Бельска-Падляшскага Валянціна Мароз.**

**ДОКТАР**

*(Беларуская жартоўная песня)*

Не знаю, чым я захварэла
І ад чаго занемагла?
Хвароб цяпер ўсялякіх многа,
Учора ў доктара была.
А доктар гэты маладжавы,
Такі прыгожы ды ласкавы,
Пра ўсё раскажа, распытае
І так мяне ўжо аглядае!
Шукае тую ён хваробу,
А я дышу яму, дышу!
А ён ні то што там вантробу,
Здаецца, бачыць і душу.
А потым трубку ён паложыць,
Да сэрца вуха як прыложыць,
Мае галубанькі, дык вось,
Сама не знаю што са мной.
Такімі чарамі ён лечыць,
Што нежывое затрапеча!
На дзесяць год памаладзела,
Здаецца, з ім бы і сядзела.
Ён даў мне гузічкаў блішчастых,
Прапаў той кашаль задзірасты.
І смачна ем і добра спіцца,
І кожну ночку доктар сніцца. — біс

**Спявае Люба Гаўрылюк — салістка хору „Каласкі"**

**ЦЯЧЭ ВАДА Ў ЯРОК**

Цячэ вада ў ярок — 2 разы
кладачку занясло.
Кладачка тоненька,
вада халодненька, 2 разы
а я малодзенька.
Вочы мае чорны, 2 разы
Чаго вы хочаце,
бо я вады ўняла, 2 разы
каго вы любіце?
Іванка не прышоў, 2 разы
я да яго пайду.
Вадзіцы з крыніцы 2 разы
Я яму аднясла.
Вады піць не буду, 2 разы
вадзіца чараўна.
Люблю Марусю я — 2 разы
Маруся суджана.
Цячэ вада ў ярок — 2 разы
кладачку занясло.
Кладачка тоненька, 2 разы
вада халодненька,
а я малодзенька.

**Спявае мужчынская група Гайнаўскага хору.**

**РЭКРУЦКАЯ**

*(Беларуская народная песня)*

Сівенькі галубчык
Садзіўся на дубчык.
Вочы яго ясны,
Бровы яго чорны, 2 разы
Дабяры каня да вяконька.

Коніка сядлае,
Каня варанога.
Асядлаўшы каня,
Каня варанога, 2 разы
Да сам з двора выязджае.

Ой, яго мілая
Плакала, рыдала.
Плакала, рыдала,
Слёзы ўцірала 2 разы
Да сваёй праваю рукой.

Плакала, рыдала,
Слёзы ўцірала.
Слёзы ўцірала
Лентай галубою 2 разы
Да сваёю русаю касой.

— Калі ж, мой міленькі,
Ка мне ў госці будзеш?
— Пачакай, мілая,
Душа дарагая, 2 разы
Ой, да роў-а, роўна тры гады.

 

# ПАЎСТАЕ З ПАПЯЛІШЧАЎ

У Чыжах на Гайнаўшчыне 6 мая г.г. адбылася ўрачыстая закладка краевугольнага каменя пад новую царкву Успення Прачыстай Дзевы Марыі. У гэтым адметным акце прынялі ўдзел Праваслаўны Мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы а. Васілій, Гайнаўскі благачынны а. Антоній, ігумен Валаамскага манастыра а. Панцеляймон і святчэннік Лева Ільтоля з Фінляндыі, духавенства з многіх прыходаў Беласточчыны, вялікая колькасць людзей.

Набажэнства служыў мітрапаліт Васілій, у казанні звярнуўся ён з заклікам працаваць для агульнага дабра, свайго асяроддзя, рэгіёна і краіны. „Вынікі гэтай працы, — заўважыў мітрапаліт, — узбагацяць духоўна і матэрыяльна не толькі тых, хто працуе, але і ўсё наша грамадства“.

Новая царква паўстае на месцы, дзе ад паловы XVII стагоддзя красаваўся старажытны храм, які згарэў у ноч з 28 на 29 жніўня 1984 г. Гэта быў каштоўны помнік беларускай архітэктуры. Збудавалі яго мясцовыя ўмельцы-цесляры, аздобілі насценнымі абразамі народныя мастакі, алтар і іншае абсталяванне выразьбілі тутэйшыя разьбяры. Выдатным аб'ектам цікавіліся гісторыкі мастацтва, турысты, ён быў вядомы ў нашай краіне і па-за яе межамі.

Варта падкрэсліць, што традыцыі царквы ў Чыжах вядуцца ад пачатку XVI стагоддзя. У тым часе тут былі паселены каралеўскія бортнікі і асочнікі-стральцы для аховы Бельскай пушчы. У дакументах з канца XVI стагоддзя гаворыцца пра царкву Успення ПДМ. Гэты храм згарэў у 60-х гадах XVII ст., і на яго месцы была пабудавана царква, якая больш за 300 год здобіла Чыжы і іх ваколіцу. 6 мая 1986 г. прыхаджане Чыжоўскай парафіі пачалі ўзводзіць трэці ў гісторыі храм. Спадзяемся, што ён будзе стаяць таксама доўгія стагоддзі, як і папярэдні, і захапляць усіх сваёй прыгажосцю.

Грамадскі камітэт пабудовы новай царквы ў Чыжах звяртаецца з просьбай да ўсіх людзей добрай волі ўплочваць свае ахвяраванні на конта: Komitet Budowy Cerkwi w Czyżach, Oddział Banku Spółdzielczego w Czyżach, Nr konta 905549-606-136-6.

**Антон Мірановіч**

Фота В. Андрэйчука



**Праваслаўны Мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Пельшчы а. Васілій пасвянціў краевугольны камень пад новую царкву ў Чыжах.**



**На ўрачыстасць заснавання царквы Успення ПДМ у Чыжах сабралася многа народу.**

---

Разам затраты 2-га Польскага Корпуса ў час яго баявых змаганняў у Італіі летам 1944 года склалі 2300 салдат забітых і больш за 8500 параненых. Было яшчэ звыш паўтысячы загінуўшых без ведама, але ў нямецкую няволю ніхто з польскіх жаўнераў не трапіў.

Бартнічук кажа, што з яго роты, якая спачатку налічвала звыш 300 чалавек, асталося ўсяго 80 поўнасправўных салдат.

— І я нашу вось трывалую памятку з гэтай бітвы, — заяўляе ветэран, падцягнуўшы аж за калена калашыну сваіх нагавіц. Гляджу. Пад самым каленам сапраўды застаўся яму на памяць шырокі рваны шрам.

— І вось тут таксама, — ён адхіляе каўнер сваёй кашулі, каб падобныя рубцы змог я ўбачыць на яго грудзях. — Гэта ад мінных асколкаў, — паясняе. — Было гэта так: калі пяхота ішла ў атаку, дык папярэджвала яе сапёрная разведка, каб ачысціць дарогу ад мінаў, каб маглі прайсці і людзі, і баявая тэхніка. А тут ноч, нічога не відаць, а калі немцы запусцяць ракеты, дык і самому трэба хавацца. І здарылася аднойчы пад гэтым жа Монтэ-Касінам, што міна разарвалася ў сябра проста ў руках, калі прабаваў ён яе абяззброіць... Зараз, каторы гэта? — задумаўся дзядуля. — Здаецца, гэты з Кляшчэляў, Вярбіцкі ці Гладскі... Абодва яны спачываюць у італьянскай зямлі. Там жа і Пура астаўся, з вёскі Сычы, што па-суседску з Грабаркай. Хай гэтая зямля пухам ім будзе...

Ён абцёр няпрошаную слязу і прадаўжаў:

— Бачыце, вось тут гэта чорненькая пляма? — паказаў мне левую руку. — Гэта таксама асколачак з-пад Монтэ-Касіна. У шпіталі яго не чапалі, дык так ён і астаўся мне на памятку. Часам толькі болем адазвецца, калі пагода мае мяняцца...

— А па шпіталях доўга давялося вам бадзяцца? — пацікавіўся я.

— Што вы?! — усклікнуў былы ваяка. — Нейкім магнітам павыцягвалі мне асколкі, пазашывалі, што трэба было зашыць, а праз тыдзень часу — вон назад у страявую! Я яшчэ паспеў паваяваць і ў Паўночнай Італіі. Я сваю ваячку закончыў, — сцвярджае Бартнічук, — у Венецыі. Гэта я добра памятаю, бо другога такога горада, каб амаль цэлы стаяў на вадзе, дык я ніколі дагэтуль не бачыў, хаця давялося мне бадзяцца амаль па цэлай Еўропе і Азіі. З Венецыі паслалі нас на адпачынак, а пасля адпачынку пагрузілі ў эшалоны ды чамусьці цераз Францыю і Швейцарыю павезлі ў Англію, ды абсталявалі недалёка ад Лондана...

І так закончыўся гэты дзень „Д“ для Івана Бартнічука, ды пачалося змаганне за лёс, за душу і будучыню параненага салдата. Але гэта ўжо зусім іншая справа і патрабуе яна асобнага расказу, пра гэта ўжо наступным разам.

**Віктар Рудчык**

---

(Працяг са стар. 4)

# ДЗЕЛЯ ЖЫЦЦЯ

чуга прыводзіў вельмі ж многа. Для прыкладу, практычныя амерыканцы падлічылі, што на забіццё аднаго чалавека ў час другой сусветнай вайны спатрэбілася каля 80 тысяч долараў. Каб раней кожнаму з гэтых забітых даць такую суму ў яго асабістае распараджэнне, дык хапіла б яе на пакупку жылога дома, на яго абсталяванне і ўтрыманне шматасабовай сям'і на працягу многіх гадоў.

Гэта нічому не навучыла свету. У арсеналах розных дзяржаў накоплена ўжо столькі зброі, перш за ўсё атамнай і тэрмаядзернай, што хопіць яе, каб кожнага жывога чалавека на Зямлі забіць аж 12 разоў! Адны ЗША на свае мілітарныя патрэбы ў мінулым годзе прызначылі аж 250 мільярдаў долараў! Гэта неймаверная сума. Невялікая яе частка хапіла б на тое, каб прадухіліць шматлікія беды, якія зараз праследуюць многія мільёны людзей на свеце, асабліва ў Афрыцы і Паўднёвай Амерыцы. Паводле даследаў сусветнай арганізацыі здароўя, кожны год ад голаду памірае на свеце ўсё яшчэ каля 15 мільёнаў чалавек, а 450 мільёнаў пастаянна недаядае. Цяжка нам у гэта паверыць, але гэта праўда. А тым часам чалавек чалавеку, замест дапамагчы, рыхтуе ўсё болей дасканалую смерць. Нават касмічную прастору сабраўся ўжо прыстасаваць дзеля смерці, а не дзеля жыцця. Вайна, страшэнная атамная вайна, можа ўзнікнуць зусім нечакана, а нават цалкам выпадкова. Праф. Б. Чэчуга прааналізаваў сем магчымых варыянтаў узнікнення атамнага канфлікту. І таму трэба рашуча і паслядоўна змагацца за спыненне гонкі ўзбраенняў, за ліквідацыю атамных арсеналаў. У гэтым сусветным клічы дзеля жыцця, а не дзеля смерці ўзяла ўдзел і беластоцкая міжнародная сесія, якая згодна аб'яднала духоўных і свецкіх людзей. Яе ідэі падтрымалі таксама замежныя госці, якія выступілі з дакладамі ад сваіх краін і веравызнанняў.

Узяў голас і сакратар Галоўнага праўлення БГКТ Віталій Луба, які адзначыў, што кожны чацверты беларус аддаў сваё жыццё ў час апошняй сусветнай вайны і таму беларусы добра ведаюць цану міру, а БГКТ, як арганізацыя беларусаў, пражываючых у Польшчы, заўжды стараецца замацоўваць ідэю мірнага сужыцця народаў і ідэю сяброўства. І таму Беларускае таварыства ад самага пачатку дзейсна ўключылася ў праграмную працу Патрыятычнага руху нацыянальнага адраджэння. Матыў змагання за мір спадарожнічае ўсім культурным і грамадскім мерапрыемствам, якія наладжвае БГКТ. Калі грымяць песні, дык маўчаць гарматы. А нашы песні гучаць на многіх фэстах, можна іх паслухаць таксама і ў час свята беларускай культуры, якое БГКТ для жыхароў Беластока наладжвае 14–15 чэрвеня гэтага года.

**В. Рудчык**



 

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



У школьным конкурсе „Беларуская песня-86" сёлета ўдзельнічалі дзяўчаткі з Зуброў. Яны старанна падрыхтавалі песні і ўласнаручна нават зрабілі на галаву апаскі ў беларускія ўзоры. З імі на здымку іх настаўніца Ніна Буднік, якая шмат ім памагае ў падрыхтоўцы да выступлення на конкурсе.

Фота Я. Чэрнякевіч.

Алег Буцень

## НАША АДКРЫЦЦЁ

Неадкрытых зямель больш няма. Усе самыя высокія горныя вяршыні здабыты. Мы з Максімкам ведаем, што вакол свету пешшу не абыдзеш: або ў мора трапіш, або міліцыя затрымае, але мы не пераймаліся. Пісалі ж газеты аб школьніках, якія зрабілі навуковае адкрыццё: выгадавалі новы гатунак хуткаспелых памідораў. А што, мы горшыя за іх? І мы цвёрда вырашылі: лопнем, але нешта адкрыем! Можа ж здарыцца, што нейкі старэнькі акадэмік зазяваецца, нечага не дагледзіць, а мы тым часам бац-бац — вось вам, калі ласка, наша адкрыццё. Добра, што?

Гэта мы з Максімкам так марылі. Вельмі хацелася нам нешта адкрыць. Толькі каб не доўга займацца гэтым. Таму што ў нас іншых спраў па горла. Адзін футбол колькі часу займае!

Неяк увесь наш клас пайшоў у лес. Ну што робяць дзеці ў лесе — усе добра ведаюць. Дзяўчаткі збіраюць кветкі, ягады або сядзяць вакол настаўніцы, слухаюць, як яна ім кніжкі чытае.

А хлапчукі звычайна ўцякаюць як найдалей, у іх у лесе свае справы, важнейшыя.

Мы з Максімкам таксама, як толькі прыйшлі ў лес, адразу ж паказалі пяткі. Пабеглі ў арэшнік, потым выбраліся з яго, шукаем сцежкі. Раптам Максімка за руку мяне цап і застыў, як статуя, толькі без п'едэстала. Я глянуў на яго і таксама спыніўся.

— Глядзі, які вялікі мурашнік.

— Цьфу! Напалохаў, — кажу, — сваім мурашнікам. Я думаў змяя.

А мурашнік і сапраўды быў вялізны, высокі. А ўпоперак — метраў з паўтара. У жыцці такога не бачыў. Падыйшлі бліжэй.

— Чуеш? — шэпча Максімка і апускаецца на калені. — Мурашы размаўляюць.

— Хто, хто размаўляе? — перапытваю.

— Мурашы, — кажа.

Прысеў і я, вушы навастрыў, вочы вылупліваю. Бачу, бегаюць мурашы па мурашніку, вусеня нейкага цягнуць, хвою, лісткі. І над усім гэтым чуецца прыглушаны гоман, як на цэнтральнай вуліцы нашага горада. Цікава ў іх выходзіць!

— Можа... Можа, гэта мы навуковае адкрыццё зрабілі? Знайшлі мурашнік, які гаворыць. Як ты думаеш, Максімка?

А ён, замест таго, каб адказаць мне, як падскочыць і наўцёкі ад мурашніка! Я — за ім. Мы так захапіліся сваім адкрыццём, што не адчулі, як нас абляпілі рыжыя мурашы. З вялікай цяжкасцю абтрэсліся мы. І зноў да мурашніка. Цікава!

— А на якой мове яны размаўляюць? — пытаюся я ў Максімкі.

— Вядома, на якой. На сваёй, мурашынай. Як бы яны разумелі адзін другога? Бачыш, яны будуюць шматпавярховы мурашнік. Трэба ж аб усім дагаварыцца: хто што будзе рабіць, на якую змену працаваць, дзе будаўнічы матэрыял браць.

— Можа гэта і так. Але як мы іх зразумеем без перакладчыка?

— Эх ты! Дзе ж ты знойдзеш такога перакладчыка? — смяецца Максімка. — Гэта нават добра, што яшчэ ніхто мурашынай мовы не ведае. А мы будзем ведаць, вывучым!

— А як жа, вывучыш! — падшпіліў я. — Сваю родную мову на тройку толькі выцягнуў. А ў іх, мабыць, і граматыка ёсць свая, і розныя там падвоеныя зычныя. Не, гэта не для мяне, — уздыхнуў я і адчуў, як страціў усялякую ахвоту вывучаць новую мову.

Пакуль мы так з Максімкам балбаталі аб мурашынай мове я адчуў, што ў шкарпэтку залез мураш, другі папоўз па назе, трэці... Я хацеў было іх скінуць, а Максімка мяне локцем у бок — стой, маўляў, і не варушыся, навуковую работу вядзем. А паспрабуй не варушыся калі ў іх абцугі, як у афрыканскіх кракадзілаў. Не вытрымаў я, вядома, і адбег назад. Абтрасаюся, а Максімка для навукі церпіць. Яго таксама ўжо з два дзесяткі мурашоў „даследуюць" а ён хоць бы дзічкі — вокам не міргне. Але хутка і ён да мяне прыбег, пагрызены, але вельмі задаволены. Не дзіва, такое адкрыццё: гаворачы мурашнік!

— Ну, добра, — кажу я яму калі мы нацешыліся па самую

(Працяг на стар 10)

Новыя вершы

Віктар Швед

### МАРЫ

Калі я пасвіў ля чыгункі
Кароў маленькім хлапчуком,
Дык не было мне паратунку:
Марыў пад'ехаць цягніком.

Мара мне гэтая збылася,
Нельга ўжо жыць без цягнікоў.
Скорым аб'ехаў я ў міжчасе
Многа краін і гарадоў.

Па моры плаваў я „Баторым",
Вазіў мяне Балтыйскі флот.
Мяне ў паднебную прастору
Не раз выносіў самалёт.

Яшчэ жыву я марай гэтай,
Пасля ўсіх зведаных дарог,
Каб хоць адзін разок
ракетай
У космас паляцець я мог.

### ЧАМУ НЕ СПІШ ТЫ, МОЙ МАЛЫШ?

Чаму не спіш ты,
Мой малыш,
Калі кругом усе паснулі?
Ты ўсё крычыш,
Не замаўчыш,
Спаць не даеш сваёй матулі.

Чаму не спіш ты,
Мой малыш?
Заснуў даўно твой мілы коцік,
Заснула мыш
І спіць гладыш
На задрамаўшым старым плоце.

Чаму не спіш ты,
Мой малыш?
Заплюшчы ўрэшце свае вочы.
Хай прыйдзе сон
З усіх старон
І цішыня прыгожай ночы.

### АПІЛКІ Ў ГАЛАВЕ ДАНІЛКІ

Настаўнік скардзіцца:
— Данілка,
Прысвойваць не патрапіш ведаў.
У галаве тваёй апілкі,
А розуму няма нат следу.

Данілка кажа:
— Справа густу,
Было так ад пачатку свету.
Мама сцвярджае, што там
пуста,
Калі ёсць нешта —
добра й гэта.

### ГРОШЫ Ў ЗБАНЕ

Мама сказала:
— Мой Іван,
У магазін да Янука
Збегай, табе няхай у збан
Налье два літры малака.

— А грошы дзе твае, сынок? —
Пытае прадавец тайком.
— Схаваў я грошыкі ў збанок,
Яны вось там, пад малаком.

### ПЛАЧА ДОЖДЖЫК

А дожджык плача, плача,
У шыбіны стукоча.
Спыняе сон дзіцячы,
Слязіць ад суму вочы.

Не плач, не плач, нябога,
Не рабі суму Жэньцы.
Зраблю табе дарогу,
Я адчыню акенца.

# ЗЯРНЯТКІ

**ПАДРУЧНІК РОДНАЙ МОВЫ ДЛЯ ТРЭЦЯГА КЛАСА**

Аўтары Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук

### НЯПОЎНЫ ЗБАНОК

Аднойчы Віця, Ваня і Андрэйка пайшлі ў суніцы. Андрэйка быў самы малы і не патрапіў так хутка збіраць ягады, як яго сябры. І ён вяртаўся дамоў з няпоўным збанком. Віця і Ваня смяяліся з Андрэйкі:

— Ты, мабыць, свае ягады на заўтра пакінуў, каб падраслі за ноч.

Андрэйка не адказваў на жарцы і цярпліва маўчаў.

На другі дзень сябры ўтрох зноў накіраваліся ў лес. Калі ў старэйшых хлопчыкаў ужо былі поўныя збанкі ягад, Віця сказаў Ваню:

— Можа, Андрэйку дапаможам?

— Што ты! — запярэчыў той. — Давай лепш наядзімся ўволю, пакуль ён назбірае.

У той час, як Віця і Ваня ласаваліся суніцамі, Андрэйка напоўніў свой збанок.

На вуліцы, па якой ішлі хлопчыкі дамоў, пад цяністым клёнам на лаўцы сядзела дзяўчынка. З лаўкі звісала яе забінтаваная нага. У руках яна трымала кнігу і ўважліва чытала. Калі хлопчыкі наблізіліся да яе, яна спыніла чытанне, зірнула на поўныя збанкі ягад і сказала:

— Ой, якія прыгожыя! А мне і не давядзецца сёлета збіраць іх!

Віця і Ваня прайшлі каля дзяўчынкі, нібы нічога не чулі, а Андрэйка прыпыніўся і падыйшоў да яе.

— Калі ласка, пакаштуй, якія смачныя! — сказаў ён.

Ваня і Віця азірнуліся і ўбачылі, як Андрэйка сыпаў дзяўчынцы ў фартушок ягады.

Зноў нёс Андрэйка свой няпоўны збанок. Але на гэты раз Віця і Ваня не насміхаліся з Андрэйкі.

**Міхась Залескі**

*1. Што вы можаце сказаць пра сяброўства Віці, Вані і Андрэйкі?*

*2. Чаму Віця і Ваня болей не насміхаліся з Андрэйкі?*

*3. Падзяліце апавяданне на часткі. Прыдумайце для кожнай з іх загаловак. Запішыце. Паводле запісу коратка раскажыце змест апавядання.*

*4. Прачытайце сказы. Пры спісванні замест кропак напішыце, дзе трэба, ь (мяккі знак). Растлумачце напісанне ь (мяккага знака).*

1. Бац...ка купіў Веры цац...кі на яе дзен... нараджэння. 2. Міхас... напісаў брату піс...мо. 3. Кропел...кі расы віселі на ліс...цях. 4. Вольха рас...це каля ракі. 5. На вуду трапляюц... акун...кі і лін...кі. 6. Летам у жыце сінеюц... васіл...кі. 7. Дзеці любяц... ездзіц... на веласіпедзе. 8. Стаяц... сонечныя дзян...кі.

### КОЛЕРЫ ГОДА

— Самы прыгожы —
Колер зялёны, —
У маі шапталі
Бярозы ды клёны.

— Самы гарачы —
Золата колер, —
Улетку звінела
Жытнёвае поле.

Самы ярчэйшы —
Колер чырвоны, —
Увосень рабіна
Шумела штодзень.

— Самы бліскучы —
Колер бялюткі, —
Спявала зіма
У завеевы дудкі.

А дзеці сказалі
Прасторам і сонцу:
— Усе колеры года
Мы любім бясконца!

**Іван Муравейка**

**АД РЭДАКЦЫІ. На гэтым мы канчаем друкаваць падручнік для трэцяга класа. Жадаем усім дзецям добрага адпачынку. Але пра „Зорку“ ўлетку не забывайцеся. Пашукайце ў ёй для сябе нечага цікавага, забаўнага, вясёлага. Яна і на канікулах будзе выходзіць.**



## Пішуць школьнікі

### ДАРАГАЯ „ЗОРАЧКА“!

*Піша да Вас вучаніца пачатковай школы ў Кленіках. Я вучуся ў шостым класе. Мяне завуць Эва.*

*Выпісваю „Ніву“. Яна вельмі цікавая. Найлепш мне падабаецца „Зорка“ і „Ніўка“. Там ёсць пісьмы вучняў з розных школ Польшчы. Ёсць і адрасы сяброў з СССР. Я многа разоў пісала да іх, але мне ніхто не адпісваў. Таму прашу Цябе „Зорачка“, выдрукуй маё пісьмо і мой адрас.*

*Я вучуся беларускай мовы. Яна мне вельмі блізкая. У нашай школе беларускай мовы вучыць Марыя Базылюк. Вельмі добрая настаўніца.*

*Шлю прывітанні ўсім працаўнікам рэдакцыі і яе верным чытачам.*

**Эва Трафімюк, вуч. 6 класа,**
**Кленікі, 251,**
**17-208 Кленікі**

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ, „ЗОРКА“!

*У сувязі з Днямі культуры, асветы, кнігі і прэсы на ўроках беларускай мовы мы гаварылі і пісалі аб першадрукару Ф. Скарыне, як калісьці пісалі кнігі, як яны выглядалі і параўноўвалі з цяперашнімі кнігамі.*

*Я вырашыла падзяліцца ўражаннямі з Табою з першай маёй сустрэчы з кнігай.*

*Калі я была яшчэ малая, на трэцюю гадавіну нараджэння мама дала мне прыгожую кнігу. Гэта была вялікая, тоўстая і цікавая кніга пад загалоўкам „Пра гномаў і сіротку Марысю“. Кніга гэтая, памятаю, як бы было гэта сёння, была з каляровымі карцінкамі і вялікімі літарамі. Чытаць я яшчэ тады не ўмела, але любіла паслухаць, як чытаюць маю кнігу мама або сястра. Змест той кнігі мне надта спадабаўся — жыццё сіроткі Марысі і прыгоды гномаў. Гэта была першая мая ўласная кніга. І я яе цяпер старанна захоўваю.*

**Эва Сэвэрын, вучаніца 7 класа,**
**Зубры.**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* ❊ *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Р. Люксембург, 116, кв. 178. Наташа Мініч, 5 клас.

* ❊ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 3-А, кв. 137. Юля Агеева, 5 клас.

* ❊ *

БССР, 220036 г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 81, кв. 1. Таня Зубкоўская, 3 клас.

* ❊ *

СССР, 163059, г. Архангельск, ул. Горького, 4, кв. 1. Мичурина Наташа. 10 год.

* ❊ *

СССР, 346901, Ростовская обл., г. Новошахтинск, ул. Щорса, 21, кв. 3. Похватная Оксана.

* ❊ *

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты-14, ул. Баррикадная, 22, кв. 40. Леоновой Лене, 4 кл.

* ❊ *

СССР, 346510, Ростовская обл., г. Шахты-10, ул. Большая 23. Рохлиной Ирине. 8 клас.

* ❊ *

СССР, 340656 г. Ростов-на-Дону, ул. Киргизская, д. 9/1, кв. 23. Яловой Эллине. 5 клас.

* ❊ *

СССР, 301254, Тульская обл., Одоевский район, с. Рылёвский. Ихаетдинову Марату. 13 год.

* ❊ *

СССР, 301254, Тульская обл., Одоевский район, с. Рылёво. Колосову Андрею. 13 год, 5 клас.

* ❊ *

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Вахрушева, 2-3 Тарала Наташе. 4 клас.

* ❊ *

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Майский, ул. Железнодорожная, 5а, кв. 1. Белову А.

* ❊ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 26, кв. 23. Алег Камкоў, 3 клас.

* ❊ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 7, кв. 24. Сяргей Осіпаў, 3 клас.

* ❊ *

СССР, 344111, г. Ростов-на-Дону, пр. 40-летия Победы, 75/1, кв. 36. Долбиной Наташе. 8 клас.

* ❊ *

БССР, 246085, г. Гомель, вул. Гомсельмашаўская, 17. Шкір'янавай Лене. 8 клас.

## АДГАДАНКА



**Разгледзь дакладна гэтыя радкі фігур. Падумай, якая паміж імі залежнасць і што трэба намаляваць у месцы з пытальнікам.**

(Працяг са стар. 9)

## Наша адкрыццё

макаўку. — Хадзі дадому, бо на вячэру спознімся ды і дождж пачынаецца.

Максімка падняў галаву, глянуў на неба, а там ні хмурынкі.

— Але ж ты паслухай, — кажу, — кап-кап-кап. Чуеш?

Максімка прыслухоўваецца, а зразумець не можа, дзе гэта капае. Потым выцягнуў наперад руку, ці не капне на руку. А вакол нас усюды чуецца: кап-кап-кап. І раптам з Максімкам нешта здарылася. Ён як закрычыць:

— Раздзявайся! — а сам ужо з сябе кашулю скінуў, штаны сцягвае. І мяне падганяе: — Ды хутчэй ты!

— Навошта? — не разумею я.

— Трэба! Для навукі трэба!

— Навошта ж навуцы мае штаны спатрэбіліся, ніяк зразумець не магу.

— Зараз зразумееш, — спяшаецца Максімка.

Схапіў нашу адзежу і кажа:

— Пасцелім яе каля мурашніка. Давай! — скамандаваў ён, і мы кінуліся раскладаць на траве побач адна каля другой нашыя кашулі і штаны.

— А цяпер лічы!

— Каго? — пытаюся. І думаю: „Ці не напякло сонца Максімкаву галаву? Нейкі ён дзіўны. Кроплі дажджу лічыць?..“

— Мурашоў лічы! Мурашоў, якія скачуць з сасны. — І паказвае на нашу падсцілку.

Глянуў я на разасланыя штаны і кашулі, і вочы ў мяне на лоб палезлі. Мураш упадзе на іх, агледзіцца — і да мурашніка.

— Адзін! Два! Тры! Чатыры! — закрычалі мы на ўвесь лес.

Дваццаць тры штукі налічылі... за некалькі хвілін! Сапраўдны мурашыны дождж!

— А ведаеш, чаму яны скачуць? — пытаецца Максімка.

— Можа, спаборніцтвы ў іх? — адказваю. — Як у парашутыстаў, на дакладнасць прызямлення.

— Гарбуз ты пераспелы, — смяецца Максімка. — Гэта яны каб хутчэй дадому дабрацца, не спазніцца. У мурашоў на ноч усе ўваходы з вечара зачыняюць.

Во якое адкрыццё мы з Максімкам зрабілі. Толькі цела свярбела ад мурашыных укусаў, быццам нехта нас крапівой пабіў.

—Максімка! — кажу я. — У цябе скура не свярбіць?

— Свярбіць. Цярпі. Гэта ўсё для навукі.

Я сумна ўздыхнуў і падумаў: „Для навукі жыццё сваё аддаў бы! А мурашам — ні за што на свеце!“



Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950 Białystok ul Wesołowskiego 1

## КОЛЬКІ МОЖНА

Задрыпанец прачытаў ліст ад цёшчы і незадаволена кажа жонцы:
— У тваёй маці сумлення няма.
— Чаго ты! — абурылася тая.
— Таго! — пaяcнiў задрыпанец. — Калі яны вяпручка калолі, я прыязджаў? Прыязджаў. Калі яны мёд круцілі, дапамагаў? Дапамагаў. І калі арэхі зрывалі, таксама быў? Быў!
— Ды і што? — не разумее жонка.
— А яна вось піша: „Прыедзь, сынок, дапаможаш гарод скапаць і бульбу пасадзіць“. Зусім ужо на маю шыю сесці хоча...

### МІНІВЕРШЫ

#### СІЛА ЯЗЫКА

Бытуе жарт здаўна ў народзе,
Усім яго запомніць варта:
„Язык да Кіева даводзіць,
А часам нават да... інфаркта“.

#### ПРЫЗНАННЕ БРАКАНЬЕРА

— Няўжо ты літасці не маеш,
Калі дзічыну забіваеш?
— Шкада яе тады бывае,
Калі хто іншы забівае.

#### „ПРАЦАВІТЫ“

Як на пасаду сеў Міхед,
За працу „ўзяўся“ ён як след.
І тут Міхед пабіў рэкорды:
Ён разгадаў усе красворды.

Андрэй Лешчанка



## НАВУКА



— Цішэй... клюе!

### РАЗУМНЫ СУСЕД

— Эй, сусед, пазычце, калі ласка, сякеру — дроў нарубаць.

— Вазьміце, толькі глядзіце, да зямлі не сячыце.

— Не хвалюйцеся, сусед, я для гэтага спецыяльны камень маю.

### ВАЖНАЯ ПРЫЧЫНА

— Кастусь, чаму цябе тры дні на працы не было?

— Ды хадзіў на паляванне, а дзік на дрэва загнаў. Тры дні давялося на ім сядзець.

— І чым жа харчаваўся?

— А есці жонка прыносіла!

### УСМЕШКІ ФІЛОСАФАЎ

Да філосафа Дэмакрыта звярнуўся яго вучань:
— Хачу навучыцца курыць. Ці карысна гэта?
— Курэнне карысна па трох прычынах. Па-першае, хто курыць, ніколі не старэе.
— Чаму?
— Таму што не паспявае пастарэць. Ён памірае маладым. Па-другое, у дом яго ніколі не залезуць зладзеі...
— Чаму?
— Таму што курыльшчык усю ноч кашляе, а зладзеі думаюць, што ён не спіць. Але гэта яшчэ не ўсё! Сабакі ніколі не чапаюць курыльшчыка...
— Чаму?
— Таму што ў яго рана адказваюць ногі і ён шкандыбае, абапіраючыся на кій. А кія, сынок, нават шалёны сабака баіцца...

Узяўся за галаву. За розум брацца было ўжо позна.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Вечар. На прызбе сядзіць бабуля Аніська і чытае ліст ад сына. Раптам загаўкалі сабакі і здалёк, ад вясковай „забягалаўкі“, панеслася „дуэтам“ песня
„...И тогда вода нам —
как земля!..“
— Эге ж, недарма кажуць, што п'янаму і мора па калені, — сказала старая.

*

Доктар Браўн памірае. На смяротным ложы ён звяртаецца да сваёй жонкі:
— Глядзі, не траць многа грошай на помнік.
Пасля таго, як Браўна пахавалі, на яго магіле была павешана эмаліраваная таблічка з дзвярэй: „Доктар Браўн, прыёмныя гадзіны штодзённа ад 9 да 12“.

*

— Ты каго больш любіш — бацьку ці маці?
— Джэка.
— Чаму?
— Ён ніколі не пытае: „Што там у школе?“

### ГУМАР З БАРАДОЮ

#### БАБУЛІНЫ ХВАРОБЫ

Прыняўшы ад хворай курку, фельчар агледзеў жанчыну і аж свіснуў:
— У вас тут, цётка, хваробаў яшчэ і на двое гусей хопіць...

### З „Весніка Задрыпоніі“

#### НАВІНЫ МЕДЫЦЫНЫ

Зубны лекар Капцаровіч з поспехам скарыстоўвае ў сваёй практыцы картачную сістэму. Пацыенту, якому збіраецца пламбаваць зуб, ён паказвае жоўтую картачку, а выдаляць — чырвоную.

#### БАНТОН

Калі вы прыкмецілі, што на блюдзе застаўся апошні кавалак — неадкладна вазьміце яго сабе, інакш яго схопіць хто-небудзь іншы.

З чаго смяюцца суседзі.



Сазлучаныя сасуды.



— Нюся?.. Муся?.. Наташа?..



Без слоў.

## КУРЁЗЫ

### КАХАННЕ І ВЯРБЛЮДЫ

Свавольны бог кахання Амур спасціг арабскага шэйха, калі той прабываў у Нью-Йорку: запала там шэйху ў сэрца кінаактрыса Брук Шылдс.

Каб папоўніць ёю свой гарэм, шэйк прапанаваў актрысе 12 вярблюдаў — цана, якая лічыцца ў Арабіі вельмі высокай платай за нарачоную. Але, як расказала сама абранніца ў тэлевізійным інтэрв'ю, высунуў адну ўмову: яна мела паправіцца на дзесяць кілаграмаў.

Вярблюды не перайшлі ў распараджэнне новай гаспадыні, бо актрыса адмовілася перайсці ў распараджэнне шэйха, спаслаўшыся на тое, што яна яшчэ надта маладая для замужжа.

### ПОШУКІ І ЗНАХОДКІ

Будучы сапраўдным мужчынам, Бібеніч усё жыццё шукаў сапраўдную жанчыну. І знайшоў. І ёй патрэбны быў сапраўдны мужчына. Ды Бібеніч да таго часу быў ужо сапраўдным дзядулем.

### З АБ'ЯВЫ

„Супрацоўнікі-халасцякі! Тэрмінова паведаміце аб пераменах вашага халасцяцкага становішча ў бок набыцця жонкі, дзяцей і іншых утрыманцаў“.




Нішто так доўга не сохне, як падмочаная рэпутацыя.